

DC COMICS™

THE NEW 52!

# The FLASH®

11

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Флэш
№11 (2011)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей

FRANCIS MANAPUL
BRIAN BUCCELLATO
MARCUS TO
RAY McCARTHY

SCORCHED BY HEAT WAVE!

DCCOMICS.COM

RATED T TEEN

SEP 2012

# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(НУМАР 1. MARVEL, 2015)




ужо даступны на www.patreon.com/comicsby

**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго няздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.








КЕЙСТОЎН.

У гэтым месцы смярдзіць.

Брудныя пакоі... Гнілое лісце... Брыдкія постаці... Я з цяжкасцю іх выношу.

Гэта такое месца, у якім любы паважаны чалавек не захоча паміраць. У гэтым-та як раз уся і справа. Калі табе трэба знікнуць - прыязжай сюды.

Пакуль я змагаюся са сваім унутраным агнём, мне пакуль лепш трымацца падалей ад радараў.
























...калі гуляеш з
АГНЁМ!

Так, у мяне ёсць праблемы з кантролем гнева. Часам я пачынаю закіпаць і больш не магу кантраляваць агонь унутры сябе. Ды і навошта мне гэта?

Няхай усё згарае.

SCRIPT & COVER BY FRANCIS MANAPUL & BRIAN BUCCELLATO • PENCILS BY MARCUS TO • INKS BY RAY McCARTHY

DC COMICS PROUDLY PRESENTS

THE




*У нарастаючым раздражненні

**НЕПАДАЛЁК.**

Здаецца, гэта ўсё нерэальна. Я там, дзе і варта быць, у Гем-Сіці... У адзіным месцы, у якім я павінен адчуваць сябе як дома. Але цяпер гэта не так.

Цяпер тут усё так... Усё змянілася... Гэты горад быў адзінай канстантай у Сусвеце. Горад, які быў маім домам, змяніўся. Грамадскае меркаванне наконт Флэша змянілася...

Доктар Эліас, які, як я лічыў, быў маім сябрам, змяніўся... І я таксама змяніўся.

Я пакінуў дзяўчыну, якую кахаю, і сваё жыццё Бары Алена пасля таго, як інсцэніраваў сваю смерць. Цяпер мне лягчэй засяродзіцца на тым, што я павінен рабіць. **Бегчы**.

NEWS

І каб зрабіць гэта, я змяніў мітусню Цэнтрал-Сіці на «Ключы»... А гэта не проста самы зладзейскі раён у Кейстоўне, тут больш за ўсё злачынцаў на квадратны кіламетр ва ўсёй Амерыцы, без уліку Алеі злачынстваў*.

*Адзін з самых найгоршых раёнаў Готэма.

І няма амаль ніякіх шанцаў, што мяне тут хто-небудзь сустрэне са знаёмых.

Што як раз мне падыходзіць. Так будзе лягчэй высвятліць, хто ці што стаіць за ўсімі гэтымі падпаламі, якімі цяпер напоўніўся гэты горад.

Можна сказаць, што я стаў паслядоўцам Бэтмэна, і хачу знайсці свайго супраціўніка.

CENTRAL CITY CITIZEN
BURNING UP!
MORE FIRES, BUT STILL NO SUSPECTS

Але з-за таго, што ў мяне няма такіх фінансавых зродкаў, як у Бэтмэна, мне прыйдзецца знайсці сабе такое жыллё, якое я змагу сабе дазволіць... І працу, каб аплочваць гэтае жыллё.

Гэта ня так ужо і цяжка, проста трэба задзейнічаць мозг.

Хоць у мінулы раз, калі я падлучыўся да Спідфорса сваім розумам*, я ледзь не злавіў кулю ў галаву...

Мяркую, рана ці позна я навучуся рабіць гэта...

*У нумар 2 Бары даведаўся, што можа «паскорыць» свой мозг і ўбачыць мноства магчымых будучынь усяго за імгненні секунды. Такім чынам, ён можа выбраць правільны варыянт дзеянняў. Але ў нумары 3 ён ледзь з-за гэтага не загінуў!

BUMP

Ой... прабачце. Напэўна, мне ўсё яшчэ трэба прачнуцца, каб вярнуцца ў рэчаіснасць. Ва ўсялякім выпадку, гэтым разам гэта была не куля.

Не хвалюйцеся, я знайшоў, што шукаў...

...магчымасць атрымаць працу ў самай брыдкай карчме Ключэй. Добрае месца на пачатак.

Давай, я буду з табой шчырым, лялка. Мабыць зараз я выглядаю трохі маладым...





















**Капітан Холад**... Чаму ён тут, а не ў «Жалезных высотах»?

Ну, я як раз на гэта і спадзяваўся. Ён мяне не пазнае, а я наадварот змагу што-небудзь даведацца. Напрыклад, ці маюць злодзеі дачыненне да гэтых пажараў...

Гэй, прыяцель! Ты ўсё яшчэ павінен мне пяць баксаў за піва. А ў пазыку я не працую.

Эм... А можна мне яго адпрацаваць?

Ты прыняты.

Нягледзячы на згубу кашалка, у мяне ўжо ёсць прагрэс.

ПАЛІЦЫЯ КЕЙСТОЎНА. ЦЭНТРАЛЬНЫ АДДЗЕЛ.























А мы вяртаемся да размовы з нашым спецыяльным госцем...

Доктарам **Дарвінам Эліасам**!

KEYSTON NEWS

CENTRAL CITIZEN

PIED PIPER BACK


Я не вырашуся назваць вас «Чалавекам гадзіны»... Бо «Чалавек года» падыходзіць вам больш, улічваючы ўсё, што адбылося за апошнія тры месяцы.
Хутка прабяжымся... У гэтым годзе вы зладзілі з мноствам праблем. З мноствам праблем **іншых** людзей. Чорт, ды пасля таго, як Флэш пагрузіў у цемру жамчужныя гарады, гэта вы вярнулі святло. Літаральна.
Я рабіў гэта не дзеля хвалы...
Будзе вам, вы ж вынайшлі абсалютна новую крыніцу энэргіі, якая забяспечыць нас электрычнасцю на сто гадоў. Гэта моцна!


Гэта было даволі-такі нядрэнна, так?
Вы былі настойлівы... І вось ужо хутка адбудзецца прэзентацыя вашай абсалютна новай манарэйкі... І што гэта вам у галаву стукнула?
Разумееце, горад патрабуе практычных рашэнняў. Энэргія, дзякуючы якой наш горад стане самадастатковым - гэта толькі пачатак. Не буду прадказваць... Але гэта не выпадкова, што Цэнтрал-Сіці стаў прагрэсіраваць хутчэй за тыя месяцы, як трагічна знік Флэш. Нагадаю, што гэта здарылася праз пяць гадоў, у час якіх ён «за намі прыглядваў».
Я правёў даследванні, Хэч, і дадзеныя вельмі дакладныя... Усе гэтыя супергерої даюць грамадству толькі самае горшае. У нас ёсць закон. У нас ёсць кодэкс падовдзін.


І **ніхто**... Нават пунсовы спідстэр... не можа ўзвышацца над імі.
Калі гэта праўда, тады як зладзіць з праблемамі, з якімі не могуць зладзіць звычайныя паліцэйскія?
Адказ просты... дзякуючы **мне**.


Але не **толькі** мне. Я кажу пра ўсіх нас. Пра звычайных грамадзян, якія хочуць дадаць чагосьці свайго, і ўбачыць, як наш вялікі горад крочыць у будучыню... Мы вяртаем уладу народу.










**Пракляцце**! Я дазволіў вам, злодзеям, прыходзіць сюды з павагі да гісторыі гэтай карчмы. Але гэта **астатняе** папярэджанне, Лені!

Астудзіся, Чарльз... Гэты тэлівізар быў кучай старызны.

Я запішу яго на твой рахунак. Чувак, мне падабалася значна больш, калі ў вас былі **гарматы**, **магічныя палкі** і іншая бздура. Бздура, якую вы здавалі на ўваходзе. А гэтыя **сілы** зрабілі вас раздражняльнымі.

Гэты Эліас чартоўскі самаздаволены. Гэты балван нічым ад мяне не адрозніваецца. Памятаеш, калі ўсё было прасцей? Добрыя хлопцы былі добрымі, а злыя - злымі.

І да якіх адносішся ты?















Як я і казаў. Я сумую па старым добрым дзянькам.

Я таксама, прыяцель... Я таксама.

Мяне завуць **Снарт**. Лен Снарт.







Я меў рацыю, калі лічыў, што знайду цябе тут, **Снарт**!
















Такому, як

The FLASH

Ух, цяпер яшчэ і **Флэш**? Ды вы абодва здзекваецеся?

Ня ведаю, чаму вы, рабяты, так злуецеся адзін на адна-го... Але вам лепш перайсці да абмеркавання сваіх праблем на словах, пакуль не папакутвалі выпадковыя людзі.

А з табой, Цеплавая хваля... Нам трэба паразмаўляць адзін на адзін.

Зьнікні, чырвоненькі... Цябе гэта не тычыцца!







Ты хочаш даведацца наконт усіх гэтых пажараў... Спытай Капітана Холада!
Сур'ёзна? Ты хочаш, каб я паразмаўляў з хлопцам, які страляе льдом, а не з хлопцам, у якога з грудзей палыхае полымя?!
Ну жа... Мабыць, мы ўсё вырашым, не спальваючы гэтае месца?
Ён не спаліць маю любімую карчму, пакуль я тут!
А нас і ня трэба шкадаваць! Проста я...
Давайце не будзем пераходзіць да крайніх мер... Я больш не буду вас шкадаваць.


...даю Холаду тое, што ён заслужыў!
Ты загубіў нашае **жыццё**, Снарт!
Я **заб'ю** цябе за тое, што ты зрабіў са злачынцамі!
Праклянце, Мік... я хацеў **дапамагчы**...
Ілгун!
З мяне досыць.

Гэтай спрэчцы **канец**!

Што за..?!

Без аніякага разумення, за што Цеплавая хваля крыўдуе на Холада... Але ў мяне такое пачуццё, што, хутчэй за ўсё, далей усё стане значна горш, а не лепш.






Салодкіх сноў, рабяткі.

Нядрэнна. Ніхто не папакутаваў. Вось што я называю поспехам.

Пашанцавала, што я выпадкова сутыкнуўся з імі... Але зноў жа, ня трэба быць навукоўцам, каб знайсці месца, дзе бавяць час два заўзятыя нягоднікі.

Тым не менш, гэта здарылася дзякуючы таму, што я быў тут. Калі буду трымаць вуха напагатове і дзейнічаць хутка, тады змагу спыняць праблемы яшчэ раней, чым яны ўзнікнуць.




*Irin Heights - Жалезныя вышыні - турма для суперзлодзеяў.










Не магу не пагадзіцца...

ЛІЗА?!

Сумавалі па мне?

NEXT: THE SECRETS OF GLIDER!

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.